*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 4(112) ◆ 27 студзеня 1993 г. ◆ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)


## ПОСТУП ТЫДНЯ



***ДРУГІ ТЫДЗЕНЬ ПРАЦУЕ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ.** У час аднаго з перапынкаў было праведзена пробнае галасаванне. Яно выявіла, што толькі 108 дэпутатаў хочуць бачыць Вярхоўны Савет прафесійным, ідэю парламенцкай рэспублікі без прэзідэнта падтрымліваюць 149 чалавек, за бясплатную адукацыю і ахову здароўя — 179 чалавек.*

●

**РЭДАКЦЫЯ РУСКАМОЎНАГА ШТОТЫДНЕВІКА «БЕЛОРУССКИЙ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЬ» АБВЯСЦІЛА**, што ў гэтым годзе правядзе акцыю пад дэвізам «За чысціню беларускай мовы». Рэдакцыя будзе сачыць за ўжываннем беларускай мовы ў друку і за мовай лідэраў партый і рухаў, членаў урада, дэпутатаў і бізнесменаў. Абяцаецца прыз і званне «Чалавек года».

●

***У ПЕРШЫЯ ДНІ НОВАГА ГОДА** ў Брэсце выйшла ў свет абласная беларуская газета «Народная трыбуна».*

●

**ГАДЗІНЫ Ў НАВУЧАЛЬНЫМ ПЛАНЕ ВІЦЕБСКАГА МЕДЫЦЫНСКАГА ІНСТЫТУТА**, якія раней займаў марксізм-ленінізм, аддадзены вывучэнню на беларускай мове «Гісторыі Беларусі, айчыннай і сусветнай культуры».

●

***У РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ГАЛЕРЭІ** працуе выстава, на якой прадстаўлены жывапіс Б. Аркачэева, кераміка М. Несцярэўскага і саломапляценне А. Грэся.*

●

**НА ЧАШНІЦКАЙ ПАПЯРОВАЙ ФАБРЫЦЫ «ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»** выраблена пробная партыя беларускай газетнай паперы. На новай паперы быў надрукаваны адзін з нумароў гарадской шматтыражкі.

# Ідэалы ТБМ — надзейны падмурак росквіту Беларусі

Адыходзіць у гістарычную вечнасць 1992 год. Ён прынёс шмат бурлівых падзей і вялікіх змен у свеце. Мы мелі прыемнасць бачыць кансалідацыю і замацаванне таксама беларускага нацыянальна-дзяржаўнага жыцця... Прыемна адзначыць, што не апошняе месца ў гэтым заняло Таварыства беларускай мовы. За параўнальна кароткі час свайго існавання яно адыграла сапраўды важную ролю ў жыцці і нацыянальным адраджэнні беларускага народа. Мы ў Аўстраліі, разлучаныя з вамі далечынёй, але з'яднаныя любоўю да сваёй Маці-Беларусі, жадаем плённых поспехаў у вашай працы па ажыццяўленні ідэалаў Таварыства беларускай мовы. Іх дасягненне будзе служыць моцным фундаментам для будовы і развіцця будучыні незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь! З пашанай

Алесь АЛЕХНІК,
генеральны сакратар Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі.

## Метамарфозы з назвамі

● Стар. 2. ●

## Пра што мы мала ведаем

● Стар. 2—3. ●

*З рэспубліканскай канферэнцыі ТБМ*

# Рабочая нарада

***Неўзабаве ТБМ імя Ф. Скарыны будзе праводзіць свой з'езд. Вядома, што да гэтай падзеі трэба падрыхтавацца як след. Таму і сабраліся на рабочую нараду актывісты грамадскай арганізацыі.***

Кіраўніцтва Рэспубліканскай Рады зрабіла невялікую справаздачу. Галоўны сакратар ТБМ Яўген Цумараў расказаў пра работу камісій, якія працуюць пры Рэспубліканскай Радзе.

Зайшла гаворка таксама пра раённыя арганізацыі ТБМ. На жаль, не ўсюды яны нават створаны. Але ёсць і добрыя прыклады, калі людзі працуюць, нягледзячы ні на што. Як, у прыватнасці, у Лідзе. Болей таго: там нават сабралі больш за мільён рублёў на будаўніцтва помніка Ф. Скарыну.

Не дзіўна, што ў сённяшніх абставінах разгарэлася вострая дыскусія пра ступень палітызаванасці ў дзейнасці ТБМ. Таму старшыня Рэспубліканскай Рады Ніл Гілевіч і паставіў пытанне: «У якой меры нам палітызавацца?..»

Народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў сцісла, але канкрэтна прааналізаваў палітыку ТБМ. Ён лічыць, што арганізацыя трапіла ў стан крызісу. Частка актывістаў ТБМ апошнім часам пераключылася толькі на палітычную дзейнасць. Другія кінуліся ў камерцыю. І калі не перабудаваць працу, падкрэсліў А. Трусаў, то мы загінем, як Таварыства аховы помнікаў. Прамоўца палічыў, што трэба перш за ўсё наладзіць больш цесныя кантакты цэнтра з месцамі. Вялікі папрок адрасаваў Алег Трусаў Саюзу пісьменнікаў: «Асноўная маса літаратараў адышла ад беларускай справы... Дзеці нашых пісьменнікаў не размаўляюць па-беларуску...» Далей народны дэпутат прапанаваў правесці па моўнай сітуацыі ў рэспубліцы сумесную канферэнцыю ТБМ і галіновых прафсаюзаў настаўнікаў і работнікаў культуры.

Вострую крытыку А. Трусаў адрасаваў і ў бок газеты «Наша слова». У прыватнасці, звярнуў увагу на адсутнасць на старонках штотыднёвіка публікацый пра гісторыю матэрыяльнай культуры Беларусі.

Тэма рэлігіі і мовы гучала ў выступленні публіцыста Лявона Ліпеня: «Сярод сяброў ТБМ не чуваць голасу хрысціянскіх святароў». А з другога боку, падкрэсліў Л. Ліпень, наша інтэлігенцыя стаіць па-за верай. І сапраўды, перш чым згубіць мову, мы згубілі веру ў Бога...

З цікавасцю слухалі прысутныя і астатніх прамоўцаў. Сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ Вольга Кузьміч расказала пра выкананне Закона аб мовах у сістэме школьнай адукацыі. Яна востра пакрытыкавала ВНУ. Атрымліваецца дзіўная сітуацыя. У школе ўжо нечага дабіліся ў барацьбе за беларускасць, прыкметна змяніўся да лепшага ўзровень свядомасці падлеткаў. А прыходзяць яны ў ВНУ — трапляюць у цалкам абруселыя калектывы, да зрусіфікаваных выкладчыкаў.

Лавіцкі Мікола, які прадстаўляў на нарадзе пярвічную арганізацыю ТБМ Заводскага раёна сталіцы, расказаў пра моўную сітуацыю ў рабочых калектывах. Назваў толькі два месцы, дзе аб нечым беларускім рупяцца,— універмаг «Беларусь» і аўтазавод. Спадар Лавіцкі прапанаваў больш рашуча дзейнічаць праз прафсаюзы. Змагацца за тое, каб на кожным прадпрыемстве існавала суполка ТБМ.

У дыскусіі аб шляхах актывізацыі дзейнасці суполак і арганізацый ТБМ выступілі таксама Леанід Лыч, Эрнэст Ялугін, шмат іншых.

Кастусь СМЕЯНОВІЧ.



У Радашковіцкай школе-інтэрнаце выхоўваюцца і вучацца сіроты і дзеці, пазбаўленыя бацькоўскага апякунства. Тут робіцца шмат, каб гадаванцы на кожным кроку адчувалі аб сабе клопат, каб раслі яны людзьмі сумленнымі і нацыянальна свядомымі. У вольную часіну выхаванцы інтэрната займаюцца тым, што кожнаму больш па душы. Нямала дзяцей з ахвотай удзельнічаюць у школьным фальклорным ансамблі «Перапёлачка».

**На здымку:** на сцэне — «Перапёлачка».

Фота Міхася ХАМЦА.

# Весткі з Віленшчыны

**ТБМ Віленскага краю звярнулася з просьбай да Рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь дапамагчы стварыць бібліятэку для беларусаў Віленшчыны. Надзея ў гэтай справе ёсць, бо нам абяцаюць дапамагчы. Бібліятэку мяркуем стварыць у Вільні па вул. Жыгімонта, дзе вызваляюцца памяшканні для беларускіх арганізацый. Толькі як гэтыя памяшканні будуць выкарыстоўвацца? Бо некаторыя з іх ужо выкарыстоўваюцца ў асабістых мэтах, як гэта зрабіў кіраўнік Віленскай «Сябрыны» Хведар Нюнько.**

**Для ТБМ Віленшчыны выдзелена месца для кіёска па продажы кніжак, газет і інш. Цяпер справа за набыццём кіёска. Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь спадар Пётр Краўчанка на Сходзе беларусаў блізкага замежжа абяцаў дапамагчы ў гэтай справе. Гэта ўжо добра.**

**Юрась Гіль.**

◆◆◆

# ПРОСІМ ДАПАМОГІ

**Нас, беларусаў-віленчукоў, вельмі радуе тое, што на старонках беларускай прэсы, у навуковых колах, розных дзяржаўных установах узнімаюцца праблемы, звязаныя з Вільняй. Радуе і тое, што акрамя гандлёва-эканамічных пытанняў, урад Беларусі неабыякавы да беларускай музейнай справы, да працэсу стварэння беларускай нацыянальнай школы ў Літве.**

**Думаю, не варта яшчэ раз напамінаць, што для нас, беларусаў, азначае Вільня. Ф. Скарына, К. Каліноўскі, Я. Купала, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, браты Луцкевічы — вось далёка не поўны пералік выдатных імёнаў, якія ўзнікаюць у нашай памяці, калі мы чуем пра гэты слаўны горад. Але не кожны наш паважаны зямляк-беларус, наведваючы Вільню, зазірне ў панадворак базыльянскіх муроў, дзе размяшчалася некалі Віленская беларуская гімназія, не кожны ведае яе гісторыю. А ў гэтай гімназіі выкладалі А. Станкевіч, М. Гарэцкі, І. Дварчанін, Б. Тарашкевіч, А. Грыневіч, Р. Шырма і іншыя вядомыя дзеячы беларускай культуры. Тут вучыліся М. Танк, Н. Арсеннева, М. Васілёк, А. Салагуб, В. Таўлай.**

**Цяпер у Вільні праводзяцца захады па адраджэнні гэтай гімназіі. Звяртаемся з просьбай да былых навучэнцаў гімназіі падзяліцца ўспамінамі, просім таксама навукоўцаў, настаўнікаў выказаць думкі па арганізацыі работы гэтай гімназіі, прапановы па стварэнні навучальных праграм.**

**Спадзяёмся, што з вашай дапамогай мы здолеем забяспечыць адпаведны ўзровень навучання нашых дзяцей.**

**ПІШЫЦЕ НА АДРАС: 2034 Літва, г. Вільнюс, вул. Студэнту, 39, Педагагічны універсітэт, кафедра беларусістыкі.**

**Гендрык ПЯТКЕВІЧ.**

## Меркаванні

# І кірыліца, і лацінка...

Апошнім часам спрачаюцца: быць ці не быць «беларускай» лацініцы? Быць, канешне! Толькі спачатку трэба адкінуць усе крайнія погляды: альбо выключна лацінка, альбо выключна кірыліца. Уводзячы афіцыйна ў паўсядзённы ўжытак лацінку, мы не можам адкінуць кірыліцу. Кірыліца была першаю на Беларусі, а лацінка прыйшла пазней на тры стагоддзі разам з каталіцызмам. Ні для каго не з'яўляецца адкрыццём і тое, што лацінка зараз самая папулярная ў свеце, на ёй заснаваны нават алфавіт мусульманскіх краін — Турцыі і Азербайджана.

Афіцыйны пераклад беларускага алфавіта на лацінку дазволіў бы беларусам хутчэй інтэгравацца ў еўрапейскі працэс, у еўрапейскі інфармацыйны рынак. Другая вельмі важная прычына адраджэння лацінкі — гэта ўсходняе суседства Расіі. Я думаю, вы са мною пагодзіцеся, калі я скажу: каб беларуская мова ўжывала лацінскі алфавіт, то нашае грамадства не было б цяпер так нацыянальна размытае.

Паланізацыі баяцца не трэба, бо польская мова вельмі моцна адрозніваецца ад беларускай, і польскі алфавіт мае значныя адрозненні ад беларускага. Наадварот, лацінка можа заваяваць інфармацыйны рынак заходняй часткі нашай краіны і выбіць глебу з-пад ног «касцельных палякаў».

Уводзіць лацінку, на маю думку, трэба паступова. Напрыклад, пачаць выдаваць асобна кірыліцкім і асобна лацінскім шрыфтам якуюнебудзь афіцыйную газету, але гэта дарога. Прасцей друкаваць у газеце тэксты лацінкай і кірыліцай, як гэта робіць рэдакцыя «Нашай Нівы». А жыццё пакажа, за чым будучыня. На мой погляд, лацінка больш перспектыўная, моладзь пацягнецца да яе, бо лацінка — гэта Еўропа. Калі мы вяртаемся ў Еўропу — трэба вяртаць лацінку. А што з кірыліцай? Можа, яе адкінуць? Ні ў якім разе! Гэта наш першы алфавіт, гэта алфавіт Статутаў літоўскіх, Скарыны, гэта таксама наш алфавіт. Менавіта ў гарманічным суіснаванні двух гэтых алфавітаў і будучыня нашай мовы!

г. Баранавічы.

**Алесь МАРГУН.**

## Нялёгкі шлях вяртання




Дачка ходзіць у гімназію. На ўрачыстай лінейцы гучыць родная мова, бо гімназія — беларускамоўная. Толькі дырэктар чамусьці гаворыць па-руску... На пачатку навучальнага года па дзве кніжкі кожнаму першакласніку падаравалі выпускнікі. Першую — «Буквар» Анатоля Клышкі. Другую — што каму патрапіць. Дачка атрымала беларускую казку «Сіняя світа налева нашыта» ў апрацоўцы Алеся Якімовіча з выдатнымі малюнкамі Міколы Купавы. А ў суседа ў правай руцэ — адзін з «шэдэўраў» лenініяны. Што пасее ён у дзіцячай душы?

**ГАННА ЦІТАЎКА.**
**Фота Міхаіла ХАМЦА.**

# МЫ МАЛА ВЕДАЕМ

*літаратурных сувязей Уладзімір САКАЛОЎСКІ)*

— Зусім не. Наадварот. Шэраг нямецкіх вучоных і пісьменнікаў, мастакоў, што трапілі ў час Першай сусветнай вайны на тэрыторыю Беларусі, адлюстравалі яе ў сваіх творах, кнігах, малюнках, навуковых працах. Тут хацелася б у першую чаргу назваць пісьменніка Арнольда Цвейга з яго раманамі «Спрэчка пра унтэра Грышу» (1927) і «Цішыня» (1954), падзеі якіх разгортваліся на тэрыторыі Беларусі. Далучым кнігу мастака Германа Струка і пісьменніка Герберта Ейленберга «Замалёўкі з Літвы, Беларусі і Курляндыі» (1916), некалькі значных публікацый нямецкага прафесара-этнографа Фрыца Куршмана «Беларусы — славянская сялянская нацыя, што абудзілася» і «Этнаграфічныя назіранні над матэрыяльнай культурай беларусаў». Плённай аказалася і дзейнасць нямецкага карэспандэнта Вальтэра Егера, які напісаў адну з першых кніг пра наш край «Беларусь» — зборнік, куды ўключаны нарысы па гісторыі, культуры, прыродзе і эканоміцы краю. Нельга не назваць і актыўную работу па збіранні і вывучэнні беларускага мастацтва доктарам Альбертам Іпелем. Ёсць і іншыя падобныя прыклады.

**— Скажыце, калі ласка, што ўяўляюць сабой знойдзеныя Вамі архіўныя матэрыялы і чаму да гэтага часу яны не былі вядомыя?**

— Адшуканыя ў нямецкіх архівах матэрыялы — дакументы, якія раскрываюць узаемаадносіны паміж беларускім насельніцтвам і нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў час Першай сусветнай вайны. З гэтых дакументаў бачна, што немцы тады праводзілі шматлікія культурна-асветніцкія мерапрыемствы: прызнанне ў 1916 годзе беларускай мовы, адкрыццё беларускіх школ, лік якіх за кароткі час дасягнуў трохсот, беларускіх настаўніцкіх курсаў і семінараў, педагагічнага інстытута ў Менску. Акрамя таго, акупацыйныя ўлады дазвалялі выданне шматлікіх беларускіх газет, арганізацыю і дзейнасць беларускіх культурна-асветніцкіх гурткоў і клубаў, адкрыццё медыцынскіх пунктаў і бальніц, увядзенне абавязковага медыцынскага абследавання мясцовага насельніцтва і абавязковых прышчэпак. Праводзіўся рамонт старых і будаўніцтва новых шасэйных і чыгуначных дарог, вузкакалеек, забяспечваліся новым абсталяваннем фабрыкі і заводы, адкрываліся новыя прадпрыемствы. Менавіта падчас нямецкай акупацыі былі створаны і беларускія органы самакіравання, урад БНР.

Прыход жа бальшавікоў і палякаў прывёў да поўнай ліквідацыі і беларускіх школ, і органаў самакіравання, і ўжывання беларускай мовы. Таму гэтыя дакументы і забараняли выкарыстоўваць, каб не развеяць так ладна створаны бальшавіцкай прапагандай міф пра Леніна — «вялікага вызваліцеля прыгнечаных народаў». Але не трэба і ідэалізаваць сітуацыю на карысць немцаў, думаць, што дазвол нямецкімі акупацыйнымі ўладамі пэўных мерапрыемстваў вычэрпваў усю іх дзейнасць. Быў і другі бок гэтага медаля — рабаванне акупацыйным рэжымам прыродных багаццяў Беларусі, жорсткая эксплуатацыя яе людскіх рэсурсаў на карысць Германіі. Аднак калі супаставіць усе гэтыя тры акупацыі: нямецкую, польскую і савецкую, то самай лагоднай для Беларусі была якраз нямецкая акупацыя. Гэта, дарэчы, пацвярджаюць не толькі нямецкія і беларускія дакументы, але і сведчанні дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Нават тое, што ўрад БНР знайшоў прытулак не ў Польшчы ці Расіі, а менавіта ў Берліне, паказвала, што і Масква і Варшава варожа ставіліся да незалежнасці Беларусі.

**— Хацелася б даведацца, ці ўдалося Вам знайсці ў Нямеччыне яшчэ якія-небудзь сведчанні адлюстравання жыцця беларускага народа?**

— Так. Цэлы пласт вельмі цікавай і разнастайнай інфармацыі пра Беларусь належыць нямецкім газетам, што ў 1916—1919 гадах выдаваліся на тэрыторыі Беларусі, і якія да гэтага часу невядомыя нават нашым даследчыкам. Тут у першую чаргу хацелася б назваць «Газету 10-ай арміі», якая змясціла больш за 700 публікацый пра Беларусь, «Стражу Усходу», «Беластоцкую газету», «Гродзенскую газету», «Пінскую газету», «Навагрудскую газету», «Баранавіцкую нямецкую ваенную газету» і інш. Неабходна адзначыць, што апошняя з іх шмат цікавых матэрыялаў друкавала пра мой родны Слонім і яго ваколіцы, пра Шчару, змяшчала шматлікія фатаграфіі і малюнкі пра яго жыццё, архітэктуру і прыроду. Яны цяпер з'яўляюцца ўнікальнымі, бо ў гады ліхалецця дзвюх сусветных войнаў амаль усе гэтыя помнікі былі знішчаны, краявіды зменены. Так што мая камандзіроўка ў Германію аказалася ва ўсіх сэнсах карыснай і пленнай.

Дзякуй за размову, шаноўны Уладзімір Лявонцьевіч. Новых Вам поспехаў!

**Гутарыў Сяргей Чыгрын.**

г. Слонім.

**Міністр замежных спраў РБ Пётр Краўчанка перадаў дырэктару Дзяржаўнага мастацкага музея Юрыю Карачуну чэк на 25 тысяч долараў. Грошы выдзеліла ЮНЕСКА для рэстаўрацыі Мірскага замка.**

◆

**У 1992 годзе ў Беларусі ўзнікла больш 100 тысяч новых прадпрыемстваў. Агульная колькасць недзяржаўных структур у эканоміцы нашай краіны дасягнула 140 тысяч.**

# ДЗЯДЗЬКА ГАЛЬЯШ

За арганізацыю тайных беларускіх школ, за арганізацыю і кіраўніцтва Лявонавіцкім народным хорам і тэатральным гуртком я быў асуджаны белапольскай уладай на пяць гадоў высылкі з Беларусі ў глыб Польшчы на Памор'е, куды мяне накіравалі 1 верасня 1926 года.

А 18 сакавіка 1927 года ў Вільні Людвіка Войцікава (Зоська Верас) пачала выдаваць часопіс для беларускіх дзяцей пад назовам «Заранка». У гэтым часопісе я супрацоўнічаў праз увесь час існавання «Заранкі» (з 1927 па 1931 год), дасылаючы з высылкі лісты для чытачоў, вершы, апавяданні, п'ескі, малюнкі, падпісваючы свае творы псеўданімам «Малады Дзядок».

У «Заранцы» пачалі з'яўляцца вершы і Гальяша Леўчыка, якога асабіста я ніколі не бачыў.

Пасля адбыцця пяцігадовай высылкі я вярнуўся ў родныя Лявонавічы, але белапольская паліцыя праз чатыры гадзіны пасля прыезду мяне арыштавала, а Нясвіжскі «гродскі» суд аддаў пад нагляд паліцыі і выслаў ад граніцы за сто кіламетраў.

Гэтак я апынуўся ў горадзе Слоніме, які знаходзіўся на 105-ым кіламетры ад граніцы.

Ліпень 1936 года выдаўся сонечны, цёплы. Я жыў на ўскраіне Слоніма, на вуліцы Агароднай (зараз — Францішка Багушэвіча). Аднойчы ў сярэдзіне дня на панадворку забрахаў сабака Бой. Я выйшаў з хаты і ўбачыў каля брамы невысокага чалавека ў вышыванай беларускай кашулі з кучаравай сівой чупрынай. Вочы чалавека гарэзліва пазіралі на мяне.

— Добры дзень, Пяюн! — звярнуўся прыбылы і назваўся: — Я — Гальяш Леўчык!

Ён моцна паціснуў мне руку.

Радасць мая была бязмежнай! Нарэшце я ўбачыў жывога Гальяша Леўчыка. Я запрасіў дарагога госця ў хату.

Паэт, нягледзячы на свае 56 гадоў, аказаўся рухавым чалавекам, цікавым і вясёлым субяседнікам. Шмат цікавага расказаў мне дзядзька Гальяш (гэтак у нас, беларусаў, прынята звяртацца да старэйшых людзей). Сказаў ён, што ад Людвікі Войцікавай даведаўся, што «ў Слоніме жыве супрацоўнік «Заранкі» «Малады Дзядок», ён жа паэт Сяргей Новік-Пяюн».

Успамінаў дзядзька Гальяш пра Янку Купалу і Якуба Коласа, з якімі супрацоўнічаў у газеце «Наша Ніва».

— А ці ведаеш, Сяргей, — спытаў дзядзька Гальяш, — што ў Слоніме жыве Ядвіся — тая Ядвіся, аб якой піша Якуб Колас «У палескай глушы»? Прозвішча яе Бараноўская, а жыве яна ў доме на ўзгорку насупраць Ражанскага магільніка. У «Нашай Ніве» яна друкавала свае вершы, падпісваючы псеўданімам «Юстына».

Амаль да самага вечара быў у мяне дзядзька Гальяш і запрасіў да сябе на вуліцу 3-га Мая (пазней — Чырвонаармейская), дом № 73. Часта наведваў мяне дзядзька Гальяш, часта я наведваў яго. І так на працягу часу ад 1936 да 1939 года.

Жыў дзядзька Гальяш у маленькім дамочку, які нагадваў будку чыгуначніка-стрэлачніка. На сцяне калідорчыка віселі музычныя інструменты: скрыпка, гітара, трыкутнік і дзве італьянскія акарыны. Пакойчык дзядзькі Гальяша нагадваў зал музея. Усе сцены былі пазавешаны ягонымі малюнкамі ў пазалочаных рамачках, фотаздымкамі, сярод якіх быў вялікі алейны партрэт самога Гальяша працы варшаўскага мастака Барвіцкага. Шмат было тут розных беларускіх кніжак, рукапісаў, здымкаў. Дзядзька Гальяш быў не толькі паэтам, але і спеваком, і мастаком, і музыкам.

Аднойчы, калі я сабраўся ісці дадому, дзядзька Гальяш спыніў мяне:

— Пачакай, Сяргей, паслухай, як я граю!

Ён зняў са сцяны акарыну і, калі мы выйшлі на панадворак, зайграў, як на флейце, вельмі прыгожа. Я падзякаваў і развітаўся.

Я быў чалавек «паднаглядны», і таму мне даводзілася наведвацца ў Слонімскі магістрат на рэгістрацыю. І неяк у тым жа ліпені 1936 года да мяне там падышла высокая, стройная кабета ў чорным паліто і капелюшы, з-пад якога спадалі пасмы сівых валасоў. Адчувалася, што яна была некалі прыгожая. Кабета з ветлівай усмешкай сказала:

— Добры дзень! Я — Ядвіся!

Я пытальна глядзеў на яе.

— Але, але! Я тая Ядвіся, аб якой напісаў Якуб Колас у сваёй аповесці «У палескай глушы». Мы сябравалі. Якуб Колас і я друкавалі вершы ў «Нашай Ніве». Я свае падпісвала псеўданімам «Юстына». Мне пра Вас расказваў Гальяш Леўчык. Маё прозвішча Бараноўская. — І яна паціснула маю руку. Да яе падышла маладая настаўніца.

— Гэта мая дачка, — пазнаёміла мяне Бараноўская.

Месца для гутарак было неадпаведнае. На развітанне яна сказала:

— Калі ласка, заходзьце да нас! Гальяш казаў, што даў Вам наш адрас.

Праз некалькі дзён я наведаўся да «Ядвісі». Яна паказала гадавік «Нашай Нівы» са сваімі вершамі.

А калі вясною 1961 года мне давялося быць у Слоніме і я прыйшоў у дом Бараноўскай, мне сказалі, што яна з дочкамі ў 1945 годзе выехала ў Польшчу.

8 кастрычніка 1939 года ў Слонім прыехаў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі Міхась Лынькоў. У рэдакцыі Слонімскай газеты «Вольная праца» ён сустрэўся з намі, прадстаўнікамі заходнебеларускіх пісьменнікаў. Тут быў і старэйшы паэт Гальяш Леўчык, які горача вітаў старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Ён заўважыў Міхасю Лынькову, што ў творах некаторых аўтараў сустракаюцца паланізмы, напрыклад: замест беларускага слова «бліск» ужываюць польскае «бляск».

Міхась Лынькоў на гэта адказаў:

— Вось цяпер Вы нам і дапаможаце выправіць памылкі.

Лынькову ад імя вызваленых заходнебеларускіх пісьменнікаў былі паднесены ручныя кайданкі, у якіх не раз хадзілі за сваю творчасць беларускія паэты ў час панскай улады, каб пабачылі пісьменнікі свабоднага народа, якую ўзнагароду атрымлівалі рабоча-сялянскія пісьменнікі Заходняй Беларусі ў жахлівай, жудаснай мінуўшчыне.

У той самы вечар са сцэны Народнага дома Гальяш Леўчык вітаў Чырвоную Армію-вызваліцельніцу і чытаў свае вершы.

А 14 лістапада 1939 года ў Слонімскі павятовы аддзел народнай асветы ў мой кабінет зайшоў народны паэт Беларусі Янка Купала, з якім я паехаў да Гальяша Леўчыка.

Старыя сябры радасна віталіся і ўспаміналі пра часы дарэвалюцыйнай працы ў «Нашай Ніве».

Гэта была мая апошняя сустрэча з Гальяшам Леўчыкам. Ён паехаў у Варшаву, дзе аставалася яго багатая бібліятэка. У Варшаве ён і загінуў падчас гітлераўскай акупацыі.

Я ведаў, што жонка Гальяша Леўчыка Зося Ляўковіч зусім не дбае аб захаванні архіва паэта. І на пачатку 1940 года запрапанаваў ёй прадаць архіў Слонімскаму музею. Зося Ляўковіч згадзілася і прадала мне: партрэт Гальяша Леўчыка, два ягоныя алейныя малюнкі: «Макі» і «Вёска Шайпякі» і ўвесь Слонімскі архіў паэта, сярод якога быў ліст Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка на бланку Беларускага выдавецкага таварыства ад 7 лютага 1914 года.

Быў у архіве яшчэ адзін цікавы дакумент — заява Гальяша Леўчыка да Слонімскага павятовага старосты аб тым, што ён выходзіць з рымска-каталіцкага касцёла і просіць выкрасліць яго са спісаў парафіянаў гэтага касцёла. Подпіс Гальяша Леўчыка зацверджаны польскай гербавай пячаткай.

Усё гэта я перадаў у Слонімскі краязнаўчы музей у 1940 годзе. Мінула 53 гады ад таго дня, калі я апошні раз бачыўся з дзядзькам Гальяшам, а ў памяці маёй ён жыве, як некалі: добразычлівы, шчыры і сардэчны.

Сяргей НОВІК-ПЯЮН.
г. Менск.

*Беларускае замежжа*

## «Полацак»

Выйшаў 8 нумар часопіса «Полацак», які выдаецца Беларускім культурна-асветніцкім цэнтрам у Кліўлендзе (ЗША).

«Хрысціянства ў форме праваслаўя на працягу стагоддзяў аказвала значны ўплыў на сферу духоўнасці, культуры беларускага народа, уключаючы пісьменства, літаратуру, манументальнае дойлідства, жывапіс, пластыку, музычнасць і г. д. Яно ўплывала на самафарміраванне беларускага этнасу, яго менталітэт побач з іншымі цэрквамі. Без глыбокага вывучэння канфесійных пытанняў нельга напісаць сапраўдную, праўдзівую гісторыю Беларусі» — так пачынаецца артыкул Юрыя Штыхава «Асноўныя этапы гісторыі Праваслаўнай Царквы ў Беларусі», якім адкрываецца часопіс.

Валянціна Дашыневіч прапануе чытачам нататкі пра святкаванне 1000-годдзя праваслаўя ў Беларусі, якое прайшло 24—27 верасня 1992 года.

Часопіс «Полацак» пачаў публікацыю спісу манет і рэчаў (ад I ст. да 1200 г.), якія былі знойдзены на тэрыторыі Віцебскай вобласці. З уступным словам да матэрыялу выступіў Міхась Белямук, які спадзяецца, што публікацыяй зацікавяцца маладыя навукоўцы і ў далейшых публікацыях знаходак дапамогуць сваёй інфармацыяй.

Друкуецца працяг артыкула Паўла Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў», а таксама працяг «Кароткага нарыса па гісторыі дзяржавы і права ў Беларусі». На гэты раз Язэп Юхо вядзе гутарку пра палітычны лад, які існаваў на Беларусі ў IX—XIV стст.

Пад рубрыкай «Памяць зямлі» змешчаны «Успаміны» Яўгена Ціхановіча пра сустрэчы з Якубам Коласам і «Гісторыя адной паніхіды» Язэпа Сажыча, які ўспамінае пра два здарэнні са сваёго жыцця, што прымусілі яго задумацца аб чалавечым лёсе і наканаванасці.

«Полацак» працягвае знаёміць з лістамі Уладзіміра Караткевіча. На гэты раз — з лістамі да школьнага сябра Леаніда Крыгмана, з якіх можна даведацца, якім цярністым і няпростым быў шлях пісьменніка да прызнання. Тут жа друкуюцца вершы Уладзіміра Караткевіча.

23 верасня 1992 года ў кабінеце старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь адбылася гутарка Кастуся Мерляка і Валянціны Трыгубовіч са старшынёй КДБ Эдуардам Шыркоўскім і яго намеснікам Віктарам Дзмітрыевым. У час гутаркі на адно з пытанняў спадар Шыркоўскі адказаў: «Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх». Пад такім загалоўкам і друкуюцца матэрыялы з былой сустрэчы.

У рубрыцы «З архіваў КДБ» змешчаны працяг «Уласнаручных паказанняў Езавітава Канстанціна Барысавіча».

«Спачатку на Бацькаўшчыну ехалі адзіночкі. І тыя, хто праводзілі смельчакоў у дарогу, хрысцілі іх на развітанне і ў думках развітваліся назаўсёды. Але падарожнікі насуперак усяму вярталіся і, нягледзячы на тое што некаторых былыя знаёмыя з недаверам пачалі адносіцца да іх, збіраліся на Радзіму зноў. Бацькаўшчына клікала да сябе, і яны ішлі насустрач яе гуканню» — гэта радкі з артыкула Святланы Белай «Туды, дзе нашыя карані», які друкуецца ў раздзеле «З жыцця эміграцыі».

З літаратурных твораў прапануюцца пераклады Масея Сяднёва выказванняў Іеана Паўля і вершы Васіля Супруна, якія былі напісаны паэтам у бальшавіцкіх лагерах.

У часопісе шмат рознай інфармацыі з жыцця беларускага замежжа, а таксама рэдкіх фотаматэрыялаў.

В. Ш.



## *Чарговы нумар «Беларуса»*

Пошта прынесла на Беларусь чарговы нумар (за лістапад 1992 года) газеты «Беларус», што выдаецца ў Злучаных Штатах Амерыкі.

На першай і другой старонках публікуецца заява апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь. Сярод іншых інфармацыйных матэрыялаў, безумоўна, выклікае цікавасць ліст народнага артыста Рэспублікі Беларусь Віктара Дашука. У сваім звароце да беларускага свету знакаміты кінарэжысёр дзеліцца планам вялікай сваёй задумы. Справа ў тым, што В. Дашуком створана кінастудыя «Спадар Д». Яе галоўная мэта — вытворчасць 30-серыйнага мастацка-публіцыстычнага фільма «Малітва маёй зямлі». Ужо ў 1992 годзе запушчаны ў вытворчасць першыя тры фільмы: «Гісторыя войнаў на Беларусі», «Гісторыя рэлігій на Беларусі», «Эпоха Брэжнева». Канешне ж, матэрыяльныя нястачы замінаюць працы. З гэтай нагоды кінарэжысёр і піша: «Я разумею, што тых, хто просіць, сёння намнога больш за тых, хто можа даць, таму я не хачу выглядаць чарговым прасіцелем, у мяне ёсць канкрэтная прапанова: улічваючы, што фільмы — гэта матэрыяльныя каштоўнасці, магчымыя пошукі з Вашай дапамогай замежных спонсараў, з якімі можна было б потым разлічыцца гатовай прадукцыяй, скажам, па тэлебачанні ці ў культурных фондах музеяў, універсітэтаў, бібліятэк і г. д. Тым больш, што многімі тэмамі серыялу можна зацікавіць тэлегледачоў і сур'ёзных даследчыкаў-гісторыкаў».

Як і ў ранейшых нумарах, «Беларус» працягвае радаваць шматграннай і разнастайнай інфармацыйнай палітрай. Сярод іншых публікацый — анатацыі на кнігі, што апошнім часам выходзілі ў менскіх выдавецтвах.

А. К.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Джордж Гордан Байран (1788—1824) — адна з самых яркіх зорак на небасхіле сусветнай паэзіі, сімвал англійскага рамантызму.

## Бяссонных сонца

Бяссонных сонца, зорачка нямая,
Што свой прамень слязою разлівае,
А цемнаты перамагчы не ў сілах,
Як ты падобна да ўспамінаў мілых!
Былое шчасце мігаціць здалёку,
Але не грэе, не дае палёгкі.
Навокал ноч — крылаты чорны волат,
У сэрцы сцелецца празрысты холад.

*Пераклад з англійскай Юркі ГАЎРУКА.*

**Джордж Гордан БАЙРАН**

## Твой бачыў плач

I

Твой бачыў плач — сляза найшла
На вока пакрысе,
Сінела вока ад святла
Фіялкаю ў расе.
Твой бачыў смех — сапфіра ўспых
У цэню знік ураз:
Ад ззяння прамянёў жывых
Уражаны пагас.

II

Ад сонца хмара ўся ў святле
Калёрамі пяе,
І цень зайздросны вечар шле,
Сагнаць з нябёс яе.
Надзеліць радасцю ў бядзе
Усмешка цеплыні,
І сонца ў сэрца западзе,
Свяціцца з глыбіні.

*Пераклад з англійскай Рыгора БАРАДУЛІНА.*

## Калі я ашуканец...

Калі я ашуканец, як лічыш ты,— што ж,
Я дарма з Галілеі ішоў басанож:
Адступіцца ад веры б хапіла ўсяго,
Каб ганебную пляму змыць з роду майго.

Калі ў свеце не ведае зло перамог,
Калі раб толькі грэшны — з табою твой бог!
Калі неба адрыне выгнаных зямлёй —
Ты жывы ў тваёй веры — памру я ў маёй.

За яе страціў больш я, як маеш ты даць:
Бачыць Той, што дазволіў табе шыкаваць;
Маё сэрца й надзея ў ягоных руках,
У тваіх жа — зняволены край ды мой прах.

*Пераклад з англійскай Галіны ДУБЯНЕЦКАЙ.*

● *Гісторыя ў анекдотах* ●

*Л. Р. КАЗЛОЎ*

# «З дазволу караля і Вялікага князя»

У сям'і нібыта ўсё прыйшло ў парадак. Але каралева Ядвіга так і не ашчаслівіла Ягайлу. Праз трынаццаць гадоў ён аўдавеў. Кароль ажэніцца яшчэ тройчы. І толькі ў апошнім шлюбе — з маладой і прыгожай князёўнай з нашых беларускіх краёў, Софіяй Гальшанскай, нарэшце займее дынастычных інфантаў. А сасватаў яму гэтую прыгажосць вялікі князь літоўскі, з якім кароль не раз калаціўся, Вітаўт.

Прайшло ўжо нямала гадоў панавання Ягайлы, калі ён у суправаджэнні Вітаўта накіраваўся на Жмудзь, каб нарэшце ахрысціць мясцовых жыхароў. Кароль стаў, разважаючы пра сэнс веры, павучаць жмудзінаў, якія з'явіліся па яго загаду. Адзін з іх на прамову адазваўся: «Міласцівы кароль, я асабіста згодзен з тым, што ўсе мы ўваскрэснем, але ўбачыш, толку з гэтага аніякага не будзе».

Вітаўта, аднаго з герояў Грунвальда, Длугаш характарызуе наступным чынам: «Росту ён быў малога і цела меў хударлявае, відаць, прырода ўстрымалася ад таго, каб адарыць яго дастойнай знешнасцю і прыгажосцю ўжо пасля таго, як надала многа іншых добых якасцей. Быў надзвычай шчодры, часцей даваў больш, чым адбіраў, таму, кажуць, правую руку меў даўжэйшую за левую. І яшчэ многія сведчаць, што да спраў кахання быў вельмі прыхільны і такі палкі, што неаднаразова, проста з поля бітвы, пакінуўшы войска на варожай зямлі, імчаў на спецыяльна расстаўленых конях да жонкі альбо да сваіх наложніц». Дык вось, пра тую надзвычайную Вітаўтаву шчодрасць да нас дайшла адна з такіх гісторый.

Сярод блізкіх да вялікага князя людзей быў шляхціц Мікалай Малдрык, які выконваў ролю асабістага сакратара і даручэнца па розных далікатных справах. Прыйшоў час, калі гэта даверанная асоба папрасілася дамоў да жонкі і дзяцей, адным словам, на заслужаны адпачынак. Вітаўт не затрымліваў яго, ды яшчэ вырашыў як след узнагародзіць. Скарбнік атрымаў загад выдаць Мікалаю Малдрыку добрыя футры, коней і іншыя патрэбныя рэчы, а да таго — сто коп грошаў. Пачуўшы пра ўсё, князева жонка Ульяна пачала горача даказваць, што гэта — разбазарванне казны. Тады Вітаўт. нічога не кажучы, дабавіў да той сотні яшчэ адну. Ульяна з новай энергіяй стала папракаць князя, які ў выніку патроіў узнагароду. Княгіня выбухнула гневам, але чым больш пратэставала, тым больш паслядоўную вытрымку дэманстраваў Вітаўт. Дайшло да таго, што ён ужо восьмы раз дабавіў свайму вернаму сакратару чарговыя сто коп, і невядома, ці хапіла б усёй дзяржаўнай казны ў гэтым спаборніцтве вялікага князя са жміндай-жонкай, калі б тая не перакаланася ў адваротным выніку свайго красамоўства. Можна ўявіць, якіх нечалавечых намаганняў ёй гэта каштавала!

Згробшы хуценька грошы, Малдрык неўзабаве адправіўся ў родныя мясціны. І доўга яшчэ апавядаў, што маёнтак свой ён здабыў, дзякуючы не шчодрасці вялікага князя, а скупасці яго жонкі. «У каго капа ляжыць, да таго яшчэ бяжыць».

Пад канец свайго жыцця Вітаўт надумаў стаць каралём, а сваю Ульяну зрабіць каралевай. Дамовіўся ён з рымскім цэсарам, каб той закінуў слова папе рымскаму. Папа даў згоду, блаславіў і паслаў у Вільню дзве кароны. Але Ягайлу такі ход гісторыі зусім не спадабаўся, бо ў яго падрасталі сыны. А гэта ўжо дынастыя, калі як след паўплываць на акалічнасці. Таму кароль загадаў Яну Чарнкоўскаму, падкамораму пазнанскаму, каб на дарогах, па якіх, магчыма, паедуць папскія паслы з каронамі і пацвярджальнымі граматамі, парасстаўляць засады.

А Вітаўт ужо рыхтаваў вялікае свята каранацыі, для чаго запрасіў гаспадароў найвышэйшага рангу з суседніх дзяржаў. У маляўнічыя Трокі — рэзідэнцыю вялікага князя, прыехалі: кароль польскі Ягайла, вялікі князь маскоўскі Васіль Васілевіч, вялікі князь цвярскі Барыс Аляксандравіч, а таксама магістры з Прусіі і Лівоніі, паслы з Царграда, Рыма і Разані, ад валашскага хана, ад Ноўгарада і Пскова, нават ад ардынскага хана, як і ад іншых краін. «І былі тыя каралі і вялікія князі з пасламі ў вялікага князя Вітаўта сем тыдняў на яго страве, а на адзін дзень ішло аброку па трыста бочак мёду, а ялавіц трыста, а бараноў і вепраў трыста». Так удакладняе меню «Супрасльскі летапіс».

Высокія госці, і Вітаўт Кейстутавіч у першую чаргу, з дня на дзень чакалі з'яўлення пасланцаў ад папы, але тых усё не было. Адзін Ягайла ведаў прычыну. Пазней яму стануць вядомы падрабязнасці. Падзеі развіваліся і закончыліся даволі проста: нунцый Батыста, які ўзначальваў пасольства, не рызыкнуў працягваць свой шлях, калі яму нехта данёс пра засаду, і вярнуўся назад у Рым.

Да Трок дайшлі, нарэшце, гэтыя драматычныя весці. Вітаўт не вытрымаў, «учуўшы тое, зваліўся, падкошаны хваробай, і памёр...» Вось так адышоў у небыццё, а адначасова і ў гісторыю вялікі князь літоўскі, які з-за шэрагу прычын, а мо і з-за сваёй шчодрасці не стаў каралём.

Многа пасля гэтага было ўсялякіх падзей, усё больш звязаных са змаганнем за вялікакняжацкі тытул і панаванне на Літве, Русі і Жамойціі. Развярнулася нават сапраўдная грамадзянская вайна, за ўладу біліся адначасова два вялікія князі — Свідрыгайла, сын Альгерда, і Жыгімонт, сын Кейстута. Але гэта ўсё вельмі сур'ёзна, таму прагарнуўшы некалькі старонак гісторыі і апусціўшы з дзесятак розных прэтэндэнтаў на вялікакняжацкую мітру, нагадаем мімаходзь пра Ягайлавага сына Казіміра.

Прайшоўшы апрабацыю ў якасці вялікага князя літоўскага, Казімір быў запрошаны на польскі трон. Традыцыя працягвалася і будзе далей працягвацца за часы панавання Ягайлавічаў. Але, зрабіўшыся каралём, Казімір не парываў з зямлёю сваіх продкаў. Чаму? Пра гэта ў «Хроніцы літоўскай і жамойцкай» гаворыцца наступнае: «За часам таго караля польскага і вялікага князя літоўскага і рускага Казіміра мала што змянілася, толькі ўсе панове каронныя з-за сваёй надзьмутасці і пыхі з-за Вальні і Падоліі сеймавалі (спрабуючы адабраць іх у Вялікага княства — Л. К.), але княжата літоўскія гэта ад іх моцна баранілі як уласнага свайго дзедзічнага панства і не дапушчалі, таму што кароль Казімір Літве быў прыхільны і з-за таго ляшскага непаслушэнства больш у Літве, чым у Польшчы, пражываў, паляваннем бавячыся».

Пра каралеўскія і вялікакняжацкія паляванні яшчэ будзе гутарка, а зараз пра адно здарэнне з жыцця Казіміра Ягайлавіча. Справа адбывалася падчас трынаццацігадовай вайны, гэтым разам апошняй з крыжакамі. Вынікам яе стаў вялікі трыумф з нагоды капітуляцыі Тэўтонскага ордэна і прызнання Прусіяй васальнай залежнасці ад Кароны польскай. Але перад гэтым...

У адной з сутычак з ордэнскім войскам, якім камандаваў магістр Людвік, польска-літоўскія харугвы не вытрымалі і паказалі тыл. Вымушаны быў ратавацца і кароль Казімір, даўшы нагам поўную волю. Сярод уцякаўшага воінства крыжакі вышуквалі найперш яго. На шчасце, манарх меў адзенне і ўзбраенне, аднолькавае са сваёй асабістай аховай, якая адцягнула ўвагу рыцараў. Побач з Казімірам застаўся адзіны шляхціц па імені Вол. Жаўнерская фартуна паспрыяла абодвум, і яны шчасліва апынуліся ў нейкім балоце, дзе шанцаў выратавацца было значна болей. Але тут іх падпільнавала другая бяда: яго каралеўская вялікасць ніколі не карыстаўся багнай для перамяшчэння сваёй асобы.

— Эх, каб каня! Аддаў бы каралеўства за каня! — апераджаючы Рычарда III гадоў на дваццаць і Шэкспіра на добрую сотню гадоў, усклікнуў Ягайлавіч.

— А мо Вол прыдасца? — спытаў спадарожнік уладара, усцягваючы яго сабе на спіну.

Многа добрых і слаўных спраў засталося за каралём і вялікім князем Казімірам Ягайлавічам. З такім аўтарытэтам яго сынам няцяжка было апынуцца на першых пазіцыях сярод кандыдатаў на каралеўскую і велікакняжацкую пасады. Магчыма, нейкую ролю адыграла тое, што, паміраючы ў Гародні, Казімір шчодра раздаваў направа і налева свае даволі вялікія збераженні, каму больш, каму менш. «Хто мае грошы, той мае і розум», як гаварылі ў сярэднявеччы. А мо кароль меў на ўвазе іншае прыслоўе: «Сёння за грошы, а заўтра задарма». Адным словам, старэйшы, Альбрэхт, стаў каралём, а вялікім князем — Аляксандр, наступны па старшынству. І ўсё ў іх прайшло гладка, без асаблівых клопатаў. Клопаты будуць потым.

Акурат у той час вельмі ўзмацнела Маскоўская дзяржава і пачала адбіраць у Вялікага княства Літоўскага землі і гарады. Таму Аляксандр паспрабаваў адразу ж памірыцца з гаспадаром маскоўскім Іванам Васілевічам. Мала таго, папрасіў аб сваім усынаўленні і адначасова пасватаўся да яго дачкі Алены. З такой просьбай і прыехалі ў Маскву віленскія паслы.

Агледзіны нявесты і прэзентацыя жаніха дакладна пададзены ў памянёнай «Хроніцы»...

«Выйшла панна да бацькі свайго і стала, пакланіўшыся. А калі ўбачылі яе паслы, падумалі, што гэта анёл у чалавечым абліччы, і, разгубіўшыся ад такое пекнаты, сталі як укапаныя. А потым упалі да яе ног, просячы, каб князя і гаспадара іх у ласцы сваёй захавала, а яна заплакала. Тут вялікі князь маскоўскі спытаў іх, ці маюць яго маляваную выяву з сабою, за якою зараз жа паслалі і прынеслі. А быў той вялікі князь літоўскі вельмі пекны, твару белага, шчок румяных, вока чорнага, а вус толькі-толькі яшчэ засеяўся». Партрэт Івану Васілевічу спадабаўся, хаця напісаны быў даўнавата. Што ж зробіш, кожны хоча выглядаць у падобных выпадках маладзейшым. Рэзалюцыя маскоўскага гаспадара прыводзіцца ў той жа «Хроніцы»: «Мне няхай застаецца гэты партрэт, а дачку маю Алену хай жывы князь літоўскі бярэ на ўсё жыццё».

Не прайшло і некалькі гадоў, як цесць і зяць, забыўшыся пра сыноўне-бацькоўскі дагавор, пасварыліся і сталі ваяваць. Ці тут разважаць аб звычайных сямейных адносінах! Розніца ў тым, што сваяцкія спрэчкі на дзяржаўным узроўні выходзяць бокам простым людзям: «Паны б'юцца, мужыкам ілбы трашчаць».

А з польскага боку хутка прыйшло традыцыйнае запрашэнне вялікаму князю літоўскаму на трон. Справа ў тым, што Альбрэхт памёр, а попыт на Ягайлавічаў трымаўся. Хаця і ў самога Аляксандра са здароўем было не вельмі, усё ж каралём ён стаў.

Пражыў Аляксандр усяго сорак пяць гадоў. Але дынастыя Ягайлавічаў на ім яшчэ не канчалася. Справы ў Кароны і Літвы ішлі больш-менш нармальна, і гэта ставілася ў заслугу чарговаму іх прадстаўніку.

## Тэатр



Беларускі тэатр «Лялька» ў Віцебску запрасіў маленькіх гледачоў на музычную казку «Церам-церамок». Вясёлы і добры спектакль дапамагае дзятве спасцігнуць простую мудрасць, што толькі ў дружбе і згодзе можна пераадолець усе нягоды.

Казку паставіў мастацкі кіраўнік тэатра Віктар Клімук, лялькі і касцюмы прыдумала Ганна Сідарава, а музыку напісаў Алег Залётнаў.

**На здымку:** акцёры, занятыя ў спектаклі «Церам-церамок».

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**
**Белінфарм.**

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

Апошні месяц зімы адпавядае сваёй назве — жорсткі і злы, з мяцеліцамі і вялікімі маразамі, што завуцца «грамнічнымі» — па назве свята, што выпала на гэты час. На Грамніцы небяспечна сустракацца з ваўкамі, у якіх пачынаецца гон. Увогуле люты для птушак і жывёл дужа цяжкі месяц. Глыбокі снег і лёд перашкаджаюць ласям, лісам і зайцам здабываць ежу. Галадаюць птушкі, асабліва шэрыя курапаткі.

**Прыказкі: «Віхуры і мяцелі ў лютым наляцелі», «Пытаецца люты, ці добра абуты?»** Прыкметы: многа снегу — многа хлеба, многа вады — многа травы. Люты марозны — да кароткай зімы і гарачага лета, халодны і сухі — да гарачага жніўня; які першы дзень месяца — такімі будуць і астатнія. Вецер на Яфрэма (10.II) — да сырога года, зорнае неба на Трыфана — да позняй вясны і г. д.

2 (аўторак). **Ун.** *Сустрэча Госпада нашага Ісуса Хрыста* (народная назва *Стрэчанне). Грамніцы.*

Існуе царкоўнае паданне, што праведнік Сімяон перад смерцю павінен быў убачыць Збавіцеля чалавецтва. Аб гэтым ён гаварыў усім людзям. Сустрэча адбылася, калі ў храм, дзе знаходзіўся Сімяон, прынеслі маленькага Ісуса. Стары пазнаў у ім Месію і прывітаў яго.

Грамніцы — старажытнае зімовае народнае свята, пасля якога земляробы пачыналі рыхтавацца да веснавых работ. «Грамніца — зімы палавіца», — казалі людзі. Вучоныя выводзяць назву свята ад паганскага бога Грамавіка (Перуна). З гэтага дня можна пачуць першы гром, які прадвяшчае вясну. Пасля таго як да народнага свята было прымеркавана царкоўнае, назва апошняга пачала таксама пераасэнсоўвацца ў народным духу — як сустрэча зімы з летам.

Існуе традыцыя асвячаць у храмах свечкі. Грамнічную свечку трымаюць у хляве, каб зберагчы ад благога жывёлу, запальваюць у час навальніцы, каб маланка не падпаліла хату, даюць у рукі чалавеку, калі той памірае. Са святам звязана шмат прыкмет. Лічылася, што вялікі мароз у гэты дзень — на цёплае і сухое лета, мяцеліца — на зацяжную вясну, адліга — на раннюю вясну («Калі на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол пад'есць травіцы»).

### «Віхуры і мяцелі ў лютым наляцелі»

3 (серада). **Кат.** *Дзень св. Бланжэя.*

5 (пятніца). **Кат.** *Дзень св. Агаты.*

7 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля блуднага сына.*

13 (субота). **Ун.** *Дзяды,* або *Дзень задушны.*

14 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля мясапусная* (мясаед). *Дзень смерці св. Кірылы, настаўніка славян* (у каталікоў адзначаецца як *дзень св. Кірылы і Мяфодзія).*

15 (панядзелак). **Прав.** *Сустрэча Госпада нашага Ісуса Хрыста (Стрэчанне). Грамніцы.*

18 (чацвер). **Прав.** *Агаф'я.* У гэты дзень свенцяць у храмах хлеб-соль, што дапамагае, як лічылася, пры пажары і хваробе каровы, калі яе «сурочаць».

20 (субота). **Прав.** *Дзяды* (Тоўстая субота перад мясапусным тыднем).

21 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля сырная.*

**Прав.** *Загавенне (запускі, запусты) на мяса перад Вялікім постам.*

Пачынаецца масленічны або сырны тыдзень — апошні скаромны перад постам, час, калі развітваюцца з зімой, са снегам і саннай дарогай. У Беларусі бытавалі розныя звычаі і гульні, звязаныя з гэтым святам, калі каталіся на санках, гушкаліся на арэлях, частаваліся блінамі. У адным выпадку магло спраўляцца «конскае свята» (коней добра кармілі і не бралі да работы); у другім выпадку запрашалі ў хату на бліны бабулю-павітуху, у трэцім — пад вокнамі «маладых», што пажаніліся ў мясаед, дзяўчаты спявалі масленічныя абрадавыя песні. Найбольш тыповая з іх:

На вуліцы дзеўкі гулялі,
Пра мяне моладу гукалі:
Што ў мяне маладой муж ліхі —
На вулку гуляць не пусціў;
А хоць пусціў — позненька:
Усе дзевачкі розненька.
А я выйду і гукну,
Усіх дзевак сазаву,
Звонкага музыку я найму
І буду гуляць да свету,
Аж да познага абеду!
А дамоў ісці баюся, —
Дзевяратаньку кланюся:
«Ах ты, дзевяратка,— большы брат,—
Завядзі мяне дадому!
Пашыю кашульку да долу,
Дам табе хустку шаўкову».
А пачуў тое ліхі муж:
«А я табе, шэльма, бок наб'ю,
Да долу кашульку сам знашу,
Шаўкову хусту сам сатру.

У канцы масленічнага тыдня адзначалася загавенне на малако. На вячэру ставілі сыр, тварог, масла, іншыя малочныя стравы.

22 (панядзелак). **Ун.** *Запускі на Вялікі пост.*

24 (серада). **Кат.** *Папелец* — свята, якое абавязкова прыпадае на сераду. *Канец запускаў і пачатак Вялікага посту.*

**Ун.** *Першая і другая знаходкі галавы Яна Хрысціцеля* (народная назва *Паўрацэнне* адпавядае царкоўнаславянскай назве свята «Обретение главы Иоанна Предтечи»).

**Прав.** *Аўлас* — прысвятак народнага календара, які адзначаўся ў гонар язычніцкага бога Велеса. Прымеркавана да дня пакутніка Уласія. Паколькі прысвятак часта супадаў з Масленіцай, то і займеў прыказку: «На Аўласа бяры каўшом масла».

28 (нядзеля). **Прав.** *Загавенне на Вялікі пост.*

**Кат., Ун.** *Першая нядзеля Вялікага посту.* У гэты дзень адзначаецца свята Віленскай Божай Маці (1495 г.).

**І. К.**

# Народная лякарня

## Навакольнае асяроддзе і працягласць жыцця

***(Працяг. Пачатак у № 3).***

Агульнавядома, што мінімальная працягласць жыцця ў жывёльным свеце, як правіла, у пяць разоў перавышае перыяд палавога выспявання. Курыца, напрыклад, жыве не меней 2,5 гадоў (расце 5 месяцаў), сабака — 5 гадоў (расце 1 год), конь — 20 гадоў (расце 4 гады). Многія жывёлы жывуць даўжэй. А што да чалавека, то мы назіраем, што калі ён адчувае сябе яшчэ добра ў маральным і творчым планах, яго фізічны стан пагаршаецца. Лінія, якая абазначае разумовыя здольнасці і волю да жыцця (ідзе ўверх), і лінія, якая абазначае пагаршэнне фізічнага стану (ідзе ўніз), перасякаюцца ва ўзросце 50 гадоў. Да 60 гадоў чалавек напалову траціць працаздольнасць і не можа далей актыўна, у ранейшым тэмпе, выконваць работу. Пытанне ў тым, як падоўжыць тэрмін працаздольнасці, бо пры захаванні фізічнага здароўя чалавек можа быць найбольш працаздольным у інтэлектуальным плане ва ўзросце 60—80 гадоў. Народная медыцына ставіць задачу падоўжыць жыццё чалавека — зрабіць яго роўным пяцікратнаму перыяду палавога выспявання арганізма, што адпавядае законам жыцця жывёльнага свету. Чалавек можа жыць **больш за 30 гадоў,** аб чым сведчыць вывучэнне людзей, якія знаходзяцца ў цесным кантакце з прыродай, многа працуюць фізічна.

Назіраецца цесная ўзаемасувязь паміж працягласцю жыцця і штодзённым харчаваннем. У ежы чалавека павінны пераважаць вугляводы (фрукты, ягады, лісце і карэнне ядомых раслін, гародніна) над бялкамі, якія знаходзяцца ў мясе, птушцы, яйках. Ужыванне прадуктаў з высокім утрыманнем вугляводаў забяспечвае арганізм гатовымі для засваення пажыўнымі рэчывамі. **Падыход, заснаваны на законах** прыроды, дазваляе захаваць здароўе і нават вярнуць яго, падоўжыць сабе жыццё. Адным словам, узровень жыццёвай актыўнасці залежыць ад таго, што мы ямо, п'ём, якім паветрам дыхаем. Прычым, велізарнае значэнне маюць мінеральныя элементы.

У функцыянаванні арганізма практычна ўдзельнічаюць усе мінеральныя элементы. Выключэнне — срэбра і золата. Народная медыцына прапануе наступны рэцэпт для задавальнення патрэб чалавека ў мінеральных рэчывах: дзве чайныя лыжачкі мёду і столькі ж яблычнага воцату на шклянку вады. Прымаць адзін ці некалькі разоў на дзень — у залежнасці ад разумовай і фізічнай нагрузкі. Сумесь мае смак яблычнага сідру. Воцат утрымлівае элементы, якія належаць яблыку, а мёд — якія належаць нектару кветак.

***(Працяг будзе).***

## ●●● НА ХВАЛЯХ БТ ●●●

***27 СТУДЗЕНЯ***

*9.00. Музыка і спевы. 6-ты клас. Песня ў творчасці беларускіх кампазітараў.*
*18.00. «Максім Гарэцкі. Прысады жыцця». Тэлевізійны дакументальны фільм.*
*18.30. Навіны Бі-бі-сі.*
*19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».*
*19.40. Эпіцэнтр. Вярхоўны Савет Беларусі: партрэт на фоне часу.*
*22.20. На сесіі Вярхоўнага Савета РБ.*

***28 СТУДЗЕНЯ***

*16.30. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ты клас. Янка Купала і яго настаўнікі.*
*18.30. Навіны Бі-бі-сі.*
*20.25. Тыдзень беларускага ўрада.*
*22.20. На сесіі Вярхоўнага Савета РБ.*

***29 СТУДЗЕНЯ***

*9.00. Беларуская літаратура. 9-ты клас. Янка Купала і яго настаўнікі.*
*12.40. Студыя МЭТА. «Майстэрня». Паэт А. Разанаў і мастак В. Маркавец.*
*16.15. Голас. Літаратурна-мастацкі відэаканал для школьнікаў.*
*18.30. Навіны Бі-бі-сі.*
*20.20. Гаворым па-беларуску.*
*23.00. На сесіі Вярхоўнага Савета РБ.*

***30 СТУДЗЕНЯ***

*12.10. Прырода і мы. Праблемы экалагічнага выхавання і адукацыі.*
*17.20. ПІК. Публіцыстычна-інфармацыйны канал для падлеткаў.*
*18.10. Адраджэнне. Успамін пра першага рэдактара газеты «Наша Ніва» А. Уласава.*
*23.05. НІКа.*

***31 СТУДЗЕНЯ***

*11.10. Гала-канцэрт пераможцаў шоу-конкурсу «Тэлебом».*
*21.05. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».*
*22.35. Каралеўскае паляванне. Шоу-казіно.*

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
**Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
**Наклад 8457 паасобнікаў.**
**Зак. 256.**

Падпісана ў друк 25.1.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3